# ВЕЧА-VIEČA

1
9 Слава
2 Абаронцам
0 Случчыны!
0
7
9
1

№ 9

Год I, 1970 | Лістапад | Year I, 1970

Беларускі часапіс | November | *Byelorussian Magazine*

# ДЗЕ БЫЛІ "ГЭРОІ"?

У ЗША, амаль у цэнтры штата Н'ю Джэрсі, знаходзіцца невялікі гарадок Саўт Рывэр. Сёлета 5, 6, 7, 8, 9 лістапада горад сьвяткаваў сваё 250-годдзе.

У горадзе пражываіць многа Беларусаў, як старой так і новай эміграцыі. Тут пражываюць дзьве ваяўнічыя беларускія групы — БЦРаўцы і БНРаўцы, апошнія за сваю культурную і царкоўную стаянку абралі жыдоўскі горад Гайланд Парк, які знаходзіцца на адлегласьці трох кілёмэтраў ад Саўт Рывэра.

У нядзелю 8 лістапада адбылася парада арганізацыяў, цэркваў Саўт Рывэра. Удзельнічылі на парадзе некаторыя навакольныя гарады. На парадзе ня было беларускай групы! Як вытлумачыць?!

Калі робіць забаву адна група, абавязкова ў гэтыж самы дзень будзіць рабіць забаву і другая група. Падняць бел-чырвона-белы сьцяг на 25 сакавіка, ад імя БАЗА у Саўт Рывэры (горад лічыцца за тэрыторыю Кангрэсавага Камітэта), але тагож самага сьцягу не ўздымуць у Гайланд Парку, Самарсэту. Зрабіць на зло адзін другому хапаіць энэргіі, часу; зрабіць карыснае для ўсіх няма ані сілы, ані энэргіі, ані розуму.

Дзень і аказыя 250 год народзінаў горада былі надзвычайна добрымі, каб усе Беларусы Саўт Рывэра і ваколіц, сваім удзелам у парадзе прадэманстравалі перад так вялікаю колькасьцю людзей сваю салідарнасьць а прыгожасьцю калёны, падтрымалі дух гордасьці маладых беларусаў, паказаць тым беларусам, што хавацца — няма чаго хавацца; падзякаваць, што мы маем шчасьце быць тут, а ня дзесь на поўначы Сібіры.

Паразганяўшы дый перасварыўшы людзей у сваіх асяродках, фюрары ня былі здольнымі выйсьці на параду, а сабіраемся ваяваць із бальшавікамі.

*Рэдакцыя*

# „Веча“ й крытыка „Веча“

Пачаў выдаваць „Веча“ др. Маркоўскі, чалавек, што ніколі не выдаваў ані рэдаґаваў часапісаў, але будучы Беларусам ступрацэнтнага нацанальнага сьведам'я (ідэйнасьці) ня вытрываў, каб не зарэаґаваць на ліха. І зарэаґаваў так, як умеў, але заўсёды шчыра і, зь некаторымі выняткамі, наагул праўдзіва. Выняткі ж тыя ня ё сьведамаю няпраўдаю, але абмылкамі або недакладным выказаваньням, азначаньням.

Ня будзем гэтта разглядаць усяго зьместу часапісу, каторага вышла ўжо шэсьць нумароў: кажны сам можа іх прачытаць і ацанаваць. Зьвернем увагу толькі на некаторыя мамэнты.

Прычына ў самым „Беларускім голасе“, чаму ён нэґатыўна адгукнуўся на „Веча“. Бо рэдактар „Бел. голасу“ залічае да найгоршых кажнага, хто зь ім ня годзіцца, і кажнага зычлівага да сябе, выхваляе, хоць бы ён быў нічога нявартьı. Ды „Бел. г.“ ані не пераборлівы ў сваіх способах, довадах. Так і тут. Разам Маркоўскі стаў ніштo, ён і шкоднік і папіхач Абрамчыкаўцаў, бо, бачыце, гутарыў із Гарошкам, як ратаваць Бэлер-Менск.

Усі, што адцемілі ў друку новага часапісу, зацемілі, што непатрэбны ў ім анґельскі тэкст. Я таксама быў супроці анґельскага тэксту, бо друкавалася тое, чаго Амэрыканцы ведаць не патрабуюць, а Беларусам не стаець свайго друкаванага слова. Я гэта і ўпікнуў рэдактару. Але ён адказаў імне, што хоча прамовіць да моладзежы, а яна ў сваёй бальшыні ня ўмее чытаць пабеларуску. І даводзіцца прызнаць, што яго праўда.

У чым жа прычына? Хто вінен за сталае, за тое, што наша моладзеж у бальшыні ня ўмее чытаць пабеларуску?

Як кажная эміґраца, так і вялікалітоўская або, калі хто хоча, беларуская застанецца пры сваім народзе, калі вытварыцца атмасфэра свайго культурна-нацанальнага жыцьця. Вытварыць жа такую атмосфэру можна толькі супольнымі сіламі большых і меншых тварыцеляў а пашыраньнікаў беларускае культуры і агульным узяем'ям із яе спажыванікамі. Ня ўсі гэта разумелі; некаторыя парабіліся патрыётамі сваіх малых асяродкаў і на пасуленьне супольнае дзейнасьці адказавалі: „У нас усё патрэбнае ёсьць да культурнае працы“, а запраўды было яго ў іх надта мала. Ад першага незразуменьня малая бяда, бо за малы час яны зразумелі б. Але былі два асяродкі, за беларускія цэнтры сябе маючыя і, за кажную цану жадаючыя, каб усі, Беларусы й небеларусы, мелі іх за такія цэнтры. Адзін із іх быў у (эміґранцкай) Радзе БНР із М. Абрамчыкам на чале, а другі ў Соўт Рывэру на чале з Іванам Касяком

і шваґрам ягоным. Абрамчык разам із тымі сябрамі (эміґранцкай) Рады БНР, што цесна былі зь ім зьвязаўшыся (не кажу супрацавалі, бо працы цяжка было пабачыць), супрацьдзеялі кажнай ініцыятыве, кажнай, — і найлепшай, імі самымі мяжсобку прызнаванай, — працы кажнага, праз каго ня былі пэўныя, што ён заўсёды і ў вусім будзе паддзержаваць „празыдента“ Абрамчыка, а разам ізь ім іх. Спачатку было гэта мала цямка, але ўсё большала а большала. Асабліва ж павялічылася тады, як Рада БНР адкінула 1952 пасуленьне Абрамчыкава пайсьці на задзіночаньне з расійскімі арганізацамі ды заразом згадзіцца на праўнае неразьвязаньне („непредрешенство“) незалежнасьці Вялікалітвы-Беларусі. Бо прыклад із чысьленага супрацьдзеяньня іх: Беларускі школьны фонд хацелі яны зьліквідаваць, бо паўстаў ён з ініцыятывы чалавека ня пэўнага Абрамчыку. Паскудная гэта рэч ліквідаваць добрую справу, але можна паручыць яе Мерляку. І паручылі, і зрабіў.

Падобна дзеля сябе, але яшчэ вайстрэй рабілі й швагры ў Соўт Рывэру, гэрмэтычна замкнуўшы сваіх верных падданікаў ад навоннага беларускага сьвету. А баронячы сваё „панаваньне“, яны ані не перабіралі ў сяродках.

Менаванай шкоднай дзейнасьці прыяла тое, што не змагаліся ізь місьцюкамі тыя, супроці каторых была ськівавана; бо апрача тога, што гэтыя былі ня прывыкшы змагацца зь Беларусамі, яны былі па вушы запрацаваўшыся; і затым не змагаліся, што шкодная дзейнасць, будучы шкоднай справе беларускай, была заразам ськівавана супроці іх асабіста.

Была тут і комуністычна-расійская рука, але ня мела б яна дасьпеху, каб не свае місьцюкі.

Справа тут не ў фашызьме, каторай, памаему, няма; гэта нязгодна з нашым нацанальным характарам. Ёсьць іншае ліха — стаўленьне сваіх асабістых справаў, ды блага зразумелых, вышэй за справу свайго народу. А як „я“ ў вадзіночным ліку надта слабое, дык яно адзіночыцца з другім такім „я“. Каб жа такое таварыства не распалася, адны адным годзяць, адны адных дзейнасьць толеруюць, як бы яна ня была ліхая. Паўстаець таварыства ўзаемнага абясьпечаньня. Такая солідарнасьць не абмежуецца толькі да дзейнасьці кажнага з таварыства, але й пашыраецца да дачыненьяў кажнага зь іх да іншых, навонных. Ня любіш ты каго, і я яго ня буду любіць; ня хочаш яго, і я не хачу яго.

Вельмі падобны да грудкоў, што на гары менаваных двух асяродкаў, ё Хмара із сваім „Беларускім голасам.“ Розьніца толькі ў тым, што ён ня мае арганізацы, на каторай чале стаяў бы, але за кажную цану імкнецца яе мець, ды тарнуе пры гэтым неэтычнасьць расійскае соцыялізмы, да супоўнасьці даведзенае ў расійскім ка-

мунізме.

Вось прычына, чаму нашая моладзь у бальшыні няпісьменная павялікалітоўску, і да яе даводзіцца зварачаца паанґельску.

Менаваная шкодная дзейнасьць місьцюкоў і цяпер не перастала. Затым асабліва надабе гэта адцямляць.

„Беларусь (Но. 156) упікнуў „Вечу“ благой мовай беларускай. І гэта праўда. Але ці мова „Сяўбіта“, „Беларускага голасу“ і асабліва былых „Навінаў зь Беларусі“ добрая? У „Сяўбіце“ мова такая-сякая толькі ў часьці матар'ялу прысыланага звонку. Я. Запруднік, рэдактар б. „Навінаў зь Беларусі“, будучы вольным ад маскоўскае катаржнае прынукі, звыш 10-ёх год псаваў мову беларускае эміграцы зрусыфікаванаю моваю беларуска-савецкіх выданьняў. І на ўсё гэта „Беларус“ маўчаў, бы вады ў губу набраўшы. А прымеж тога Маркоўскаму шмат, шмат разоў цяжэй была навучыцца добра роднае мовы, чымся рэдактарам трох менаваных выданьняў. Дык чаму такая ўвага да аднаго, а няўвага да другіх?

Палітычнае фанатызмы, праз што ўпікнуў той жа „Беларус“ „Вечу“, у ім ані няма. Але рэліґійная фанатызма або, хіба, лішняя падазронасьць ё. Праяўляецца яна ў бачаньню ўсюдых варагаў Праваслаўнай царквы — за малым ня ў вусіх Беларускіх каталікох, у ладнай часьці самых праваслаўных, у тым, што „Крывічы правапыканскага кірунку („Веча“ Но. 3, б. 4). БАЗА — праватыканскага кірунку („Веча“ Но. 6, б. 8) і на'т часам у Беларускай Аўтакефальнай Царкве. Бача, бо вера, што так ё; затым, як даведаецца праўду, што гэтага няма, перастане бачыць. Значыцца, гэта ня мае перакажаць супрацы з Маркоўскім. Такога ж пагляду быў і Сьв. Памяці Архіяпіскап Васіль. Адцеміўшы ў сваім лісьце да рэдактара „Веча“, што „Вы крыху нязгодна з праўдаю ўспомнелі пра „БАПЦ“, ён заразом вельмі прыязьліва паздароваў яго, пазычыў яму дасьпехаў, дабраславіў, дарма што ня ўжыў гэтага слова (ліст Сьв. П. Архіяпіскапа Васіля выдрукаваны ў Но. 5 „Веча“).

А што Маркоўскі ўсёю душою аддаiны Праваслаўнай Царкве, дык гэта добра, бо Беларуская Праваслаўная Царква патрэбна народу нашаму, а яе ня будзе, калі ня будзе адданых ёй сьвятароў і вернікаў.

А што да „Гэрман Стрыт“, каторага вельмі гане др. Маркоўскі, дык гане яго не за тое, што ён сябра Бэлер-Менску, як гэта чамусьці думае агляднік друку ў Но. 1-ым „Літаратура-Мастацкага Зборніка“, але за тое, што, будучы сябрам, не бараніў Бэлер-Менску ад ліхадзейства, а баронячым іншым перакажаў бараніць.

Адцемлю некаторыя цьверджаньні „Веча“, з каторымі нельга згадзіцца.

За забіваньне за немецкае окупацы польскімі партызанамі без-

бароннага беларускага жыхарства „Веча“ вінуе Беларусаў каталікоў, кажучы: „Хто вінен, польскі эміґрацыйны ўрад ізь Лёндыну ці Беларусы каталікі, якія пайшлі да польскай краёвай арміі? (Но. 3, б. 12). Т. зв. „польская краёвая арма“ (запраўды яна не краёвая, але польская і з Польшчы была) складалася з Палякоў, жаўнераў і ахвіцэраў польскае армы. Гэтая арма, разбітая Немцамі, адышла да Заходняе Беларусі і тут часьць яе перайшла на Жмудзь, а часьць пахавалася па дварох апалячаных паноў. Беларусы каталікі былі ў ёй толькі як выняткі, і ўсі былі нацанальна нясьведамыя, уважаючы сябе за Палякоў. Адказуюць за іх польскія арганізатары менаванай армы, бо былі яны ў Палякоў нявісным снадзівам. Сьведамых Беларусаў каталікоў польскія партызаны забівалі першых. Было гэта затым, што, не спадзяючыся апалячыць Беларусаў праваслаўных, Палякі ўсю надзею пакладалі на апалячэньне Беларусаў каталікоў; калі ж гэтыя вывальняліся ад польскага душэўнага паняволеньня, дык уся надзея на полёнізацу чэзла. Прывяду колькі прыкладаў. У сяле Вурняняты Краўскае вол. Ашмянскага пав. забілі Валента Станкевіча, роднага брата ксяндза Адама Станкевіча. У сяле Гайлешы тае ж воласьці забілі шмат мужчын, жанкі й малыя дзеці. У сяле Ґарэцкаўшчына Вішнеўскае вол. аднаго сьведамага Беларуса каталіка (прозьвішча яго ня памятую) прывязалі да сядла і так цягнулі 15 км. аж да Барун. Ув Ашмяне забілі Міхала Ґаляса, мясцовага дзеяньніка беларускага. У с. Шутавічы ля Смаргонь забілі Вайцеха Шутавіча, братаніча кс. Шутавіча. У Лідчыне — Пётру Рандарэвіча. У Вільні забілі пісьменьніка Пранцішка Алёхнавіча, рэдактара беларускае газэты, выдаванае ў Вільні. Забілі, відаць, за тое, што ў газеце друкаваў ведамкі праз польскія забіўства ў Лідчыне. Гэта была прычына; а па селах забівалі сьведамых Беларусаў каталікоў безь ніякае прычыны, адно затым што яны былі нацанальна сьведамыя (ідэйныя).

Калі б, сустрэўшыся на Лабе (Эльбе) Амэрыканцы з бальшавікамі, пачалі вайну із сабою, дык яны не ваявалі б за Польшч, як гэта думае „Веча“, бо яна была скомпромітаваўшыся перасьледаваньням народаў, сілком прылучаных да Польшчы, і сваей змовою зь Гітлерам на падзел Чахаславаччыны. Калі б Амерыка тады мела зразуменьне небясьпечнасьці ад СССР, дык ваявала б зь ім не за Польшч, а за сваю й сьвету бясьпечнасьць ад расійскае камуністычнае пагрозы; а тады зразумелі б, што гэтага можна дапяць вывальніўшы народы паняволеныя Расіяй, прынамся гісторычныя, у тым ліку й Вялікалітву-Беларусь. Хоць не дакладна, але на Захадзе ведалі, ідзе канчаецца Польшч і пачынаецца Беларусь. Праз гэта сьветча хоць бы ліня Керзона, хоць адцінаючая ладную часьць Беларусі да Польшчы, але разоў дзесяць меншую

за окупаваную Польшчаю памеж дзьвюх сьветных войнаў.

У вадным месцу ,,Веча" кажацца, што польскія партызаны ваявалі зь Немцамі, бальшавікамі й Беларусамі. Не, зь Немцамі блізу ані не ваявалі, а з бальшавіцкімі партызанамі вельмі мала. Не ваявалі й зь Беларусамі, але, маючы зброю з польскае армы, адлі ад Немцаў, выбівалі безбаронную беларускую людначасьць, подле свайго лёзунгу: śmierć każdego Białorusina szerzy teren Polski". Затым што польскія партызаны не ваявалі зь Немцамі, гэтыя спадзяваліся іх прыхінуць да вайны з бальшавікамі, пасылалі сваіх ахвіцэраў на перамовы зь імі і давалі ім зброю, каторую яны ўжывалі да выбіваньня Беларусаў.

Абмыльнае цьверджаньне, што Немцы ,,нішчылі" то польскі то беларускі нацыянальны актыў (Но. 3, б. 13). Запраўды ў Беларусі Немцы Палякаў ня нішчылі.

У Но. 6-ым ,,Веча" чытаем: ,,Дзеля таго, каб растрэліць частку жыхарства, трэба было прыгатаваць сьпісаньні пераз валасных старшыняў, пераз раённыя урады. Стараста сяла мусіў ехаць із Немцамі ды паказаць гэтых людзей, бо Немцы іх ня знали." Імне не даводзілася чуць, каб так было; ня верыцца, каб такія цырамоні гітлераўцы тарнавалі пры сваіх пакараньнях. Як пэўныя, ведаў я наступныя факты. Нягодны дурань памсьціў свайму брату Вялікаліцьвіну забіўшы яго. Тады пайшоў сказаў бліжшаму прадстаўніку нямецкае окупацыйнае ўлады: ,,Я яго забіў, бо ён казаў на Немцаў тое а тое". Немец кажа: ,,Ґут." У млына сяла Чатыркі, Ашмянск. п. Краўской в. адзін засьміяўся зь якогась недасьпеху нямецкага. Другі чуўшы гэта, наказаў Немцам. Першага застрэлілі. Пэўне ж такія факты былі не адзіночныя. І няма дзіва, што яны здараліся па 150-годняй (а ў некаторых месцах і большай) дэмаралізацы расійскай народу нашага. Здаралася, што асобныя гітлераўцы забівалі нашых людзей бязь ніякага ўданьня іх і бязь ніякае віны іхнай. Ішоў раз нямецкі жаўнер па вуліцы, а праз акно глядзела дзеўка. Ён застрэліў яе.

Калі б толькі гэта было, дык было б сто разоў ляпей, чымся было запраўды. А было гэтак. Пайшоў адзін чалавек у партызаны, і за гэта гітлераўцы спалілі ўсё сяло разам із жывымі людзьмі. Або на'т ніхто ня быў у партызанах, але яны аказаліся блізка сёлаў, і за гэта спалілі колькі акалічных сёлаў із людзьмі. Расказалі, што ў пав. Браслаўскім зьявілася дванацнцёх партызанаў. За гэта гітлераўцы выпалілі ўвесь павет разам із жывымі людзьмі, адно косьці спаленых тырчэлі. Можа гэта перабольшавалі, але што спалілі шмат і, хіба, бальшыню, дык гэта пэўна. Здаралася, што брат быў палічнік, а сястру ягоную гітлераўцы спалілі, загнаўшы на ток разам із іншымі.

Да рэчы праз палічнікаў. Маркоўскі піша: „Палічнікі разам ізь Немцамі гналі гэтых (арыштаваных) да ямы (каб, застрэліўшы, закапаць). Было гэта ў першым пэрыёдзе вайны, як паліца складалася з Палякоў, жаўнераў з разьбітае польскае армы. Немцы абясьнілі: кажны, злоўлены на рынку або ў месьце бяз прашпарту, будзе застрэлены. Тады польская паліца рыштавала дзейных Вялікаліцьвіноў, адыймала ад іх дакумэнты і перадавала Немцам, дадаўшы, што яны камуністыя, і Немцы стралялі іх. Асабліва гэтым адзначыўся нейкі Юневіч, апалячаны шляхціч з пад Пархвенава, што быў начэльнікам польскае паліцы ў Маладзечне. Гітлераўцы ведалі гэта, але не чапалі Юневіча, прыдаючыся, што яму верацъ, і толькі, як Беларусы дамагаліся звальненьня, і ён уцякаў, Немцы арыштавалі яго на станцы ў Лідзе.

Гэты жах адразу перастаў, як, замест польскае, настала паліца беларуская. За адно гэта, калі б Масква мела хоць троху людзкога пачуцьця да народу беларускага, дык надгараджала б нашых паднямецкіх палічнікаў, а не страляла б іх. Але Маскалі хочуць як найболей зьнішчыць наш народ. У вакупаванай Немцамі Польшчы ўвесь час уся польская паліца заставалася пад нямецкаю камандаю, і польскі камуністычны ўрад не пакараў тых польскіх палічнікаў за гэта.

На Ўсебеларускім Конґрэсе 1917 г. былі ня толькі соцыялістыя, але й некаторыя несоцыялістыя. Дый соцыялістыя не затым былі паслалі на Конґрэсе, што былі соцыялістымі, але затым, што былі абраныя народам. У Радзе Беларускае Народнае Рэспублікі таксама былі ня толькі соцыялістыя. І на наступным Конґрэсе або Сойме тыя будуць пасламі, каго абяруць, незалежна да якое партыі будуць належыць, або будуць беспартыйнымі.

„Сьляпы патрыятызм, кажа др. Маркоўскі, нічога ня варты, асабліва такі, як „Беларусь перадусім!“ Я бы не сказаў гэтага, бо нявісны можа празерыць, і будзе відучым. Лягчэй нявісной стаць патрыятызьме стаць відучай, чымся нарадзіцца новай патрыятызьме. Ніякі народ ня стаў няшчасны з прычыны свае патрыятызмы; і расійскі народ не ад патрыятызмы стаў няшчасны, але з прычыны імпэралізмы свае здаўна дэспотычнае ўлады, каторая, замест рупіцца праз дабро свайго народу, ужывала яго (а пасьлей і іншых) як снадзіва паняволеньня іншых народаў.

Што ж да лёзунґу „Беларусь перадусім!“ дык, калі яму адказуюць імкненьні БВФ, гэта таксама добра. Не перакажае гэтаму тое, што гэты лёзунґ можа прыпамінаць нямецкае „Deutschland, Deutschland ueber alles!“ бо накшы зьмест яго ў нас — вывольненьне, а ў Немцаў імпэралізма. Слова „перадусім“ ё няўдалым, бо літаральнім перакладам польскага przedewszystkim. У нас ё сваё сло-

ва гэтага значэньня — „наўперад“ (Наўперад Беларусь!); „на“ ў ім мае тое ж значаньне, што „най“ — у найвышэйшай ступені прыметнікаў (найлепшы, найдарожшы, найхарошшы).

Я. Бунчук-Будзіч у сваім лісьце да рэдакцыі (Но. 6, б. 8, 10) мянуе БВФ (Беларускі вызвольны фронт) як арганізацу вельмі карысную. Але ў „Беларускім голасе“, Но. 183, з маю сёлета ё на б. 3 арт. Вольскі Трэскі пад назовам „Беларусы ўв Англіі“, у каторым кажацца, што БВФ быў арганізаваны Радаславам Астроўскім із мэтаю развaліць Беларускі вызвальны рух (БВР) беларускіх вэтэранаў, арганізаваны маёрам Галубовічам-Зарэчным. Праўда, „Беларускаму голасу“ цяжка верыць. Але, першых месяцаў просьле вайны, я чуў у Мюнхене ад некаторых Беларусаў празь беларускую дзеяльнасьць Галубовічаву, у каторай ён выглядаў як дзеяльны а ўзумесны дзеяньнік беларускі ступрацэнтнага нацанальнага сьведам'я (ідэйнасьці); і гэта згаджаецца з тым, што напісала празь яго В. Трэска. З другога боку, тое, што піша яна ў тымжа артыкуле праз (пра) Астроўскага ўзглядам дачыненьняў ягоных да БВР і БВФ, згаджаецца з характарам гэтае людзіны.

Добрае зычаньне др. Маркоўскага ў Но. 6 „Веча“, што „Нам патрэбна мець свой амэрыканскі каледж. У такім каледжу мы мелі б магчымасьць бачыць дзеці або ўнукаў старой беларускай эміграцыі, Беларусаў, якія дыхаюць чужым паветрам“. Справа гэта не лягкая, але магчымая. Мела б быць колеґія беларусаведы, у каторай выкладалі б беларускую мову, літаратуру, гісторыю Беларусі й інш. Абсадзіць было б кім. Трэба толькі, каб тыя, ад кога гэта будзе залежыць, зналіся на наўчоных беларусаведных навук. Бо весь, сёлета ўзімку, др. Я. Запруднік быў арганізаваўшы т. зв. „дзялёґі“ зь беларусаведы. Подле яго меў быць гэта курс высокі, унівэрсытэцкі, але прачытаць на ім лекцыю зь беларускае мовы ён пазваў — Ант. Адамовіча, каторы ня толькі не мававед, але, казаў той, антымававед, бо напярэк мававедзе й мававедам піша, што мова беларуская ня была даўней, за Вялікага Княства Літоўскага, моваю літаратуры, „моваю літаратурнага працэсу“ (у варт. „Да пытаньня месца Пр. Багушэвіча ў гісторыі беларускае літаратуры“ („Запісы, кн. 3, Мюнхен 1964, б. 124). Таксама на адправе 450-ых угодкаў беларускага друку, зладжанай БІМ'ам, Адамовіч „азначыў Скарынаву мову, як *тагачасную беларускую літаратурную,* а не народную мову, як мову кніжную, што *складалася тады з элемэнтаў беларускіх і царкоўна-славянскіх* („Беларус, Но. 128, б. 8, зацем „На 450 ўгодкі беларускага друку“).

Цяжэй былоб із коштам, але й гэта пры добрай волі можна было б заладзіць.

Надабе зычыць, каб „Веча“ стала звычайным часапісам, што

адказаваў бы ўсебаковым патрэбам эміґрацы беларускае і стаяў бы на варце спраў народу беларускага. Калі др. Маркоўскі ня спыне свае дзеяльнасьці, а іншыя задзіночацца зь ім, дык „Вечам" пачнецца адраджэньне эміграцы беларускае.

*Давідовіг Гор*

# Адказ на крытыку „Веча"

І *Мова гасапіса.* Праўдаю ёсьць, што мова „Веча" ня ёсьць падобна да мовы „Беларуса", „Беларускай думкі", „Царкоўнага сьветача", „Веды", „Зьніча". Рэдактар „Веча" ня ёсьць мовавед дый ня меў магчымасьці вучыцца ў Лёсіка. Хочыцца запытаць радактароў вышэй успомненых выданьняў: хто вас змушаіць пісаць парознаму, што часапіс то іншая беларуская мова. Прачытаўшы „Мужыцкая праўда" Кастуся Каліноўскага, я рашыў не браць курсы беларускае мовы ў Станіслава Станкевіча, тым больш у яго заступніка, дый пачаў пісаць той моваю, якую нам акупанты скалечылі. А мы, іх ахвяры будзем пісаць так, як умеем. Часапіс „Веча" ня толькі чытаюць але перачытваюць. Няхай пахваляцца крытыкі „Веча" сваімі выданьнямі, што іх пісаніна перачытваіцца; добра калі нехта хоць раз прачытаіць.

ІІ *Рэлігійны фанатызм.* Аніякага рэлігійнага фанатызма ў часапісе „Веча" няма. Ёсьць крытыка тых, хто няпісанай палітычнай праграмай эміганцкай рады БНР зрабіў рэлігію. Радактару гэнага часапіса прышлося перажыць экспэрымэнты маскоўскіх калгасаў, практыку новаэўрапэйцаў, а пагэтаму не жадаю, каб прэзыдэнт эміганцкай рады БНР із ксяндзамі рабілі свае экспэрымэнты над Беларускім Народам. Крытыка апіраецца на фактах.

1. Ужо адразу посьле Другой Сьветавой Вайны, чытаючы газэту „Беларускія навіны", напрашвалася пытаньне на такія сказы: беларускі сьвятар, беларуская царква, беларуская калёнія ў Парыжы, беларускі прэзыдэнт і калі было прыгледзіцца зблізка то гэта былі ксяндзы із прэзыдэнтам Абрамчыкам.

2. На якія сродкі пражываў Абрамчык першыя гады па другой вайне? Вы знаіце, што значыць не працаваць а толькі езьдзіць дый палітыкаваць сярод Беларусаў.

3. Хто завёў у Лёвэн, на калецтва некалькі дзесяткаў беларускіх студэнтаў? Прэзыдэнт Абрамчык із эміганцкай рады БНР.

4. Хто арганізаваў вуніяцкую царкву ў Чыкаго? БНРаўцы эміганцкага вырабу.

5. Хто ўтрымоўваў і друкаваў апошнія гады газэту БНРаўцаў эміганцкага вырабу „Бацкаўшчына"? Вы добра пра гэта знаіце.

6. Часапіс „Уздым" выдавалі праваслаўныя БАПЦ, вы знаіце

пра што там пісалася.

7. Памятаіце, як у Н'ю Брансвіку купнялі царкву (БАПЦ), колькі непрыемнасьцей ад місьянэраў пераўжылі праваслаўныя!

8. Чаму эміграцкая рада БНР піхаіць праваслаўных беларусаў на ламаньне канонаў праваслаўнай царквы, але каталікі Беларусы ня хочуць паступіць у такі самы спосаб із Ватыканам. Звычайна каталікі прыкрываюцца, што нас ёсьць мала. Я магу налічыць ідэйных беларусаў каталікаў у раёне Н'ю Брансвік — Саўт Рывэр столькі, што яны могуць мець свой касьцёл такой вялічыны, як праваслаўная царква (БАПЦ) у Гайланд Парку. Што Ватыкан скажыць то для каталікаў закон. Як каталікам можна давяраць вышэйшую ўладу на Беларусі, калі для іх Ватыкан перадусім.

9. Чаму праваслаўны сьвятар БАПЦ у Бэльгіі станавіўся пад благаслаўленьня каталіцкага кардынала ўсходняга абрада.?

10. За што рабілі прыкрасьці БНРаўцы эміграцкага вырабу, сьвятару Крыту? За крытыку вуніятаў, Абрамчыка.

11. Калі вуніяцкае шыла вылезла із мяшка, тады каталіцкая фракцыя эміграцкай рады БНР прыняла пэўныя меры наперад, як: Новы тэстамэтовы ёсьць каталік, рэдактар „Беларуса" каталік і г. д.

12. Хто даець прытулак, расьпісваць паедкі вуніяцкіх біскупаў па БНРаўскіх асяродках? БАЗАўская газэта „Беларус" дый падобныя ёй арганізацыі.

13. Хто езьдзіць у эміграцкую БНРаўскую Мэку ў Чыкаго на тыдзень каталіцкіх студыяў? Ідэялісты эміграцкай рады БНР.

III „*Ніякі народ ня стаў нязгасны з прычыны свае патрыятызмы*".

Адзін патрыятызм не разьвяжыць праблемы права, эканомікі на Беларусі, ня зробіць наш народ культурнай нацыяй. Гэтыя тры элемэнты ёсьць так неабодныя для нацыі, як кожнаму із нас індывідуальна неабходна мець ваду, паветра і яду для таго каб жыць на гэтым сьвеце, жыць адным патрыятызмам — гэта тое самае, што жыць адным паветрам, калі ня верыце то паспрабуйце.

На эміграцыі мы надужываем другім клічам — Беларуская Справа: грошы сабіраем на беларускую справу, ня пытаючыся, што за гэтымі двума словамі хаваецца; зварочваемся да моладзі, каб яны рабілі арганізацыі ў імя беларускае справы; старая беларуская эміграцыя павінна была падтрымаць нас для таго, што мы былі вялікія патрыёты — падтрымалі яны? Калі-б мы мелі на эміграцыі некалькі добрых банкаў, некалькі адукацыйных дый узгадаваўчых установу для моладзі і дзяцей, а сябе вялі, як людзі культуры, тады-б мы прыцягнулі да сябе сымпатыі старой і новай эміграцыі, тады-б беларускае грамадзкае жыцьцё было-б на ўзроўні. Калі будзіць добра для Беларусаў, тады будзіць добра і для Беларусі!

Беларус перадусім! Такія клічы, як Беларусь перадусім, Беларуская справа — патрэбны тым палітыкам, якія палітычна дый інтэлігэнтна ня ёсьць на ўзроўні; альбо тым, хто хаваіць свае сапраўдныя ідэі, каб толькі залезьці да ўлады, а там яны пакажуць патрыётам (так, як Сталін навучаў ідэйна камуністаў камунізму). Ад самага пэрыяду Адраджэньня мы жывем дый прыктыкуем толькі патрыятызм праз нашую культуру. Як далёка мы зайшлі? Калі мы ня зьменім сваіх асабістых паводзін і палітычную практыку, тады нашыя суседзі праглынуць нас, як той каршун пісклівае куранё.

IV *Спосаб, у які зьнішчалі Беларусь і яе людзей праз расейцаў і немцаў дый іх памагатых — беларусаў, быў самы розны. Гэтая тэма ёсьць вельмі вялікай, як у шырыню так і даўжыню.*

Жахі і факты апошняй вайны на Бацькаўшчыне павінны былі пачаць эпоху сапраўднага ўздыму. Нажаль, апошнія 25 год сталіся эпохай хваленьня палітычнага недапечанага элемэнту, як у БССР так і на эміграцыі, альбо хаваньне і перакручваньне фактаў. У БССР гэта ёсьць нармальна, але чаму такі выбар зрабіў партыйны Інстытут навукі і мастацтва ў Н'ю Йорку дый іншыя арганізацыі на эміграцыі?

V *„На Ўсебеларускім Кангрэсе 1917 г. былі ня толькі сацыялістыя“*. Гэта праўда. Як вытлумачыць, што БНРаўцы 1917 г. у іх праграме абвесьцілі рэкі, лясы, фабрыкі і заводы собскасьцю дзяржавы? БНР — значыць народнае, агульнае. Чаму гэтыя іншыя нідзе ня былі і ня ёсьць чутнымі із сваімі праграмамі?

VI *„Справа тут не ў фашызьме, каторай, памоему, няма гэта нязгодна з нашым нацыянальным характарам“.*

Я ня бачу другога твару, як дыктатура. Пачытайце „Беларус“, „Беларуская думка“ кроме хвастаўства пра самых сябе аніякай думкі. Чаму гэтыя партыйныя газэткі ня хочуць дыскутаваць пра форму дзяржавы, якую яны падтрымоўваюць?

Як вытлумачыць: партыйныя цэрквы, партыйныя арганізацыі моладзі, партыйныя вэтэранскія арганізацыі, ніякага каардынацыйнага цэнтра. Нашая Маленькая Беларусь—Рэзорт Бэлэр-Менск ёсьць клясычны прыклад, што могуць зрабіць дыктатуры.

Беларусы як нацыя мала разумеюць свой нацыянальны характар. Чужынцы разумеюць характар Беларуса лепш, як самы Беларусы.

## *ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ*

Другі парахвіяльны сход царквы Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай, у Саўт Рывэр у справе пераняцьця (рабунку) Маленькай Беларусі—Бэлэр-Менск ёсьць правалены. Малайцы Саўт Рывэрцы!

Радактар: Dr. P. Markouski Editor

Адрыс: 204 S. Highway, 18
East Brunswick, N.J. 08816
USA

Цана 50 ц. Price 50 ¢

Printed by The Whiteruthenian Press * 452 South Avenue, Syracuse, N.Y., 13204